 


# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 43 (974) ГОД XIX 27 КАСТРЫЧНІКА 1974 г. ЦАНА 60 гр.





### ВОСЕНЬСКІ МАТЫЎ

Калі зляціць лісток пад бровы,
На свет па-новаму глядзіш, —
Вось вецер
колерам такі ж,
Як валасы жанчын вясковых.

Калі ручай, нібы з вясны,
Пачне звінець без перапынку, —
Яснеюць вочы,
бы галінкі
З густымі кроплямі расы.

Ты, восень, — дабрыня
і жорсткасць,
То ўспыхне раптам шэры ліст,
То скоціцца з дажджамі ўніз —
Слязы маёй
каменьчык шорсткі...

* ✲ *

Перад табой забытую дарогу
Я разгарнуў,
Нібы абрус яна;
Хай сцелецца да светлага парога,
Да хаты,
дзе сябрына і радня.
Няхай ідзе праз гулкія дасвецці,
Губляецца ў далёкіх гарадах,
Няхай з душы жывое слова вецер
Не выкіне,
як птушанё,
з гнязда.

**Валянціна Коўтун**

### ЛІСТ I САКРАТАРА ВАЯВОДСКАГА КАМІТЭТА ПОЛЬСКАЙ АБ'ЯДНАНАЙ РАБОЧАЙ ПАРТЫІ Ў БЕЛАСТОКУ БЕЛЬСКАМУ БЕЛАРУСКАМУ ЛІЦЭЮ

*Towarzysz Dyrektor*
*Liceum Ogólnokształcącego*
*z Białoruskim Językiem Nauczania*
*w Bielsku Podlaskim*

*Składam, na ręce Towarzysza Dyrektora, gorące podziękowanie Komitetowi Organizacyjnemu I-go Zjazdu Absolwentów i Wychowanków Liceum za przesłane życzenia i zapewnienie dalszej ofiarnej pracy.*

*Wysoko cenimy wychowawczą pracę Szkoły i jej zaangażowanie w życie społeczno-gospodarcze środowiska.*

*Życzę Dyrekcji Liceum, Gronu Pedagogicznemu i uczniom wielu dalszych sukcesów i osobistej satysfakcji ze zdobywanej wiedzy i pracy oświatowej i wychowawczej.*

*Z poważaniem*

*Zdzisław Kurowski*

*Białystok, 3 października 1974 r.*

### ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У "Ніве"





*Злева направа: стаяць Мікалай Севасцьянавіч Кудрашоў і Эміль Талочка, сядзяць: Феліцыя Талочка з сваім любімым унукам Валерыкам Кудрашовым, Галіна Васільеўна Кудрашова і Таня Кудрашова.*

## ПАСЛЯ ТРЫЦЦАЦІГАДОВАГА РАССТАННЯ

Скоры поезд Ленінград-Берлін пунктуальна ўехаў і затрымаўся на беластоцкім вакзале. Мы — чалавек дзесяць, сустракаючых сям'ю Кудрашовых — разбегліся па перону і перапытвалі прозвішчы кожнага выходзячага з цягніка. І вось ужо пані Феліцыя ў абдымках Мікалая Кудрашова, пан Эміль прыпадносіць букет кветак Галіне Кудрашовай, вітаемся з дзецьмі Таняй і Валерыкам Кудрашовымі. А праз пятнаццаць-дваццаць мінут уся наша грамада сядзіць за святочна застаўленым сталом на кватэры Феліцыі і Эміля Талочка. Выпіваем тост за сустрэчу, цудоўную сустрэчу блізкіх людзей пасля 30-гадовага расстання. Льюцца польскія і рускія песні, успльіваюць успаміны...

✲

Дзяцінства Мікалая Севасцьянавіча Кудрашова не належала да лёгкіх. Нарадзіўся ён у Горкаўскай вобласці ў сялянскай сям'і ў 1934 годзе ўжо пасля смерці свайго роднага бацькі. У маці было шасцёра дзяцей, і Колю ўзяў на выхаванне і ўсынавіў капітан Савецкай Арміі Севасцьян Кудрашоў, які быў жанаты на роднай сястры Колінай маці. Кудрашовы сваіх дзяцей не мелі і ўсё сэрца аддавалі свайму прыёмнаму сыну. Недзе ў 1939 годзе капітан Кудрашоў быў накіраваны на службу ў воінскай часці, што стаяла ў Кнышыне на Беласточчыне. Неўзабаве да яго прыехала на сталае жыхарства і жонка з Колем. Сям'я жыла спакойна і шчасліва. Здавалася, што ніякае гора не можа пагражаць хлапцу. Хадзіў ён у дзіцячы сад, гуляў са сваімі кнышынскімі аднагодкамі, у вольныя ад службы хвіліны бацька браў яго з сабой на экскурсіі па ваколіцы ці на рыбалку на кнышынскім возеры.

Быў цудоўны пагодны май 1941 года, і маці пад канец месяца выехала на некалькі тыдняў у далёкі Акцюбінск, каб праведаць родзічаў. Няшчасце звалілася нечакана раніцай 22 чэрвеня 1941 года. Спакойны дзіцячы сон перарвалі выбухі авіябомб і ўзрывы дальнебойных нямецкіх гармат. Дзіця сарвалася са сваёй пасцелі і кінулася да ложка бацькі. Ложак быў гладка паслані — бацька пасля вячэрняга дзяжурства, відаць, не вяртаўся на кватэру. Прыбегла суседка, супакоіла, памыла, апранула і накарміла хлапца. А праз некаторы час з'явіўся бацька. Супакоіў сына і суседзяў, але на ўсялякі выпадак спакаваў самыя неабходныя дзіцячыя рэчы. Праз дзень-другі заліваючагася слязьмі Колю цяжка было адарваць ад бацькавай шыі, але цягнік з эвакуіруючыміся сем'ямі савецкіх воінаў і іншымі людзьмі ўжо рушыў. Бацька аддаў хлопца пад апеку знаёмых, развітаўся з сынам і вярнуўся ў сваю вайсковую часць. Не ведаў яшчэ тады сямігадовы Коля, што бачыць яго ўжо апошні раз.

Фашысцкія груганы разбамбілі цягнік з жанчынамі і дзяцьмі ў Слоніме. Неўзабаве горад аказаўся ў акружэнні. Дзяцей з сямей савецкіх ваенных фашысты сагналі ў канцлагер. Кармілі раз у дзень нейкай агіднасцю з бручкі і гнілой бульбы. І групка хлапчукоў пралезла ноччу пад калючым дротам і разбеглася па ваколіцы. Некалькі з іх

**(Працяг на стар. 5)**



**З ПЕСНЯЙ НАСУСТРАЧ XXX-ГОДДЗЮ ПНР**

Анна Стахвіюк з Трасцянкі Гайнаўскага павету на сёлетнім фінальным аглядзе ВГКТ заняла другое месца ў катэгорыі фальклорнай песні ў групе салістаў.

Фота А. Карпюка

## НАШ З'ЕЗД

Якім быў I з'езд выпускнікоў Бельскага беларускага ліцэя?

Незабыўны, цудоўны, свойскі і сямейны, цёплы і радасны — такія ацэнкі чуліся і чуюцца пастаянна.

Як добра было з біццём сэрца сустракацца з сябрамі, якіх не бачыў 30, 20, 10 год! Як добра было вярнуцца ў тыя дні шумнай і часта дурнаватай маладосці, калі за плячыма няслося 16-19 год.

Нязмернае паважанне да настаўнікаў у час з'езду было характэрнай рысай гэтай сустрэчы. Пацягнуліся рукі на прывітанні, а вочы, здавалася, гаварылі: „Я добра сёння вывучыў урок".

З'езд пацвердзіў: выхадцы ліцэя — людзі адной вялікай і дружнай сям'і, якія сваёй працай, сваім жыццём прыносяць гонар сваёй школе, сваім настаўнікам, сваім бацькам і сваім калегам.

У выпуску 1974 г. была 1000-ая асоба, якая атрымала матуральнае пасведчанне беларускага ліцэя. Гэта найлепшая выпускніца года, выдатны матэматык. Яна без экзаменаў была прынята ў Варшаўскую палітэхніку. 1001 выпускнік распачаў вучобу ў СССР, таксама ў тэхнічным напрамку. Разам матуру ў беларускім ліцэі атрымала 1084 асобы плюс 80 выпускнікоў беларускай гімназіі з 1946 года.

Абсалютная большасць выпускнікоў здабыла вышэйшую, чым сярэдняя, адукацыю. Многія дасягнулі высокіх навуковых ступеняў, а многія працуюць на высокіх адказных пасадах у прамысловасці і дзяржаўнай адміністрацыі. Працуюць у розных гарадах і вёсках краіны. Заўсёды і ўсюды цанілася палітычнае і грамадскае заангажаванне выхадцаў з беларускай школы. Высока цэніцца іх добрая праца, дысцыплінаванасць і самаахвярнасць.

Дырэкцыя ліцэя і арганізацыйны камітэт I з'езду правялі без асобай падборкі анкету сярод групы выпускнікоў. Вось кароткі плён яе. На 115 анкетаваных маем: трох галоўных бухгалтараў і бухгалтараў, 7 настаўнікаў пасля СН, 9 лекараў, 4 магістраў матэматыкі (пасля універсітэтаў), 3 студэнтаў, 8 медсёстраў пасля 2-гадовых паматуральных школ, 4 магістраў педагогікі, 3 магістраў фармацыі, 5 магістраў права, 2 магістраў тэалогіі, 9 магістраў філалогіі, 8 тэхнікаў з пасляматуральнымі школамі, дзве акушэркі, трох працаўнікоў устаноў, 2 журналістаў, 5 інструктараў або інспектараў, 2 гаспадароў, 1 ляснічага, 28 інжынераў — у тым ліку 21 магістраў інжынераў.

Сярод 115 маем 4 высокіх афіцэраў са спецыяльнасцю магістра інжынера або лекара, маем тры адкрытыя дактараты, 3 ад'юнктаў, 3 ардынатараў у бальніцах, 1 кіраўніка клінікі, 2 з навуковай ступенню доктара.

На 115 анкетаваных 71 асоба выконвае найменш адну грамадскую функцыю. Найчасцей гэта сакратары і дзеячы партыі розных грамадскіх і культурных арганізацый.

Працяг на стар. 4

 

 

ШТО НОВАГА?

# Усё больш ашчадных сялян

Разважлівая ашчаднасць — гэта прызнак разумнага гаспадарання, гэта таксама самы лепшы паказчык заможнасці і багацця.

Дырэктар Ваяводскага аддзела Цэнтральнага саюза спулдзельчых банкаў, магістр **Юзэф Стэльмашынскі** з гонарам адзначае, што ашчаднасці сялян Беластоцкага ваяводства ў 1972, 1973 і 1974 гадах нараслі шмат шпарчэй, чым у краіне.

— Па вышыні прыросту, — гаварыў мне дырэктар, — заваявалі мы першае месца ў краіне.

Найлепш гэта адлюстроўвае наступны прыклад: каб накапіць першы мільярд злотых ашчаднасцей у спулдзельчым банку, спатрэбілася аж 17 гадоў. Яго сяляне Беласточчыны склалі ў 1972 годзе. А вось ужо другі мільярд злотых паявіўся ў спулдзельчым банку пад канец першага квартала гэтага года, значыць на працягу 15-17 месяцаў.

У Беластоцкім ваяводстве налічваецца цяпер больш-менш 180 тысяч аднаасобных гаспадарак. 156 тысяч з іх адкладаюць свае ашчаднасці ў спулдзельчых банках. За прададзеныя тавары ў 1972 годзе атрымалі яны з кас спулдзельчага банка 5 мільярдаў 670 мільёнаў злотых, а ўжо ў наступным годзе ў кішэні сялян паплыло амаль 7 мільярдаў злотых. У гэтым годзе даходы сялян павялічыліся на 20 працэнтаў. Зразумела, гэтая карысная гаспадарчая з'ява знайшла адразу сваё адлюстраванне ў СОП-аўскіх ашчадных кніжках. Сялянскія ашчаднасці, накопленыя ў спулдзельчых банках на Беласточчыне, 30 верасня гэтага года склалі ўжо **2 мільярды 184 мільёны злотых. На аднаго статыстычнага селяніна**, які карыстаецца паслугамі спулдзельчага банку, **прыпадае ў сярэднім па 14 тысяч злотых.**

Гэта дае Беласточчыне восьмае месца ў краіне.

— У нас на Беласточчыне, — інфармуе дырэктар Стэльмашынскі, — найбольш ашчадных сялян жыве ў Беластоцкім, Сямяціцкім і Бельскім паветах.

Над гэтым варта хвіліну прызадумацца. Беластоцкі, Сямяціцкі, Бельскі, а да іх яшчэ можна дадаць і Гайнаўскі паветы дагэтуль лічыліся адсталымі раёнамі ваяводства. Аказваецца, аднак, што сяляне і ў гэтых паветах умеюць ашчадна і разважліва гаспадарыць.

— Наш вопыт паказвае, — яшчэ раз бярэ слова начальнік спулдзельчых банкаў на Беласточчыне, — што сяляне Беласточчыны ўжо з поўным даверам даручаюць нам свае немалыя ашчаднасці. Хопіць сказаць, што кожны год на працэнты ад гэтых ашчаднасцей адводзім мы амаль 40 мільёнаў злотых. Затым ужо 52-ое сялян вылясавала ў нас трактары як прэмію. Гэтую форму ашчаднасці ўвялі мы два гады таму назад і карыстаецца яна сярод жыхароў вёсак вялікім поспехам.

— Вядома, — гавару я, — сялянскія ашчаднасці не залежваюцца ў стальных сейфах спулдзельчых банкаў.

— Мы іх перш за ўсё выкарыстоўваем на крэдыты для гаспадароў, якія іх патрабуюць. Цяпер рэдка хто адыходзіць ад нас з пустымі рукамі. Сяляне нам давяраюць, дык і мы ім ахвотна дапамагаем.

— Такім чынам усё больш і больш нітак звязвае нашых гаспадароў з дзейнасцю спулдзельчых банкаў.

**(Працяг на стар. 4)**

**Карэспандэнцыя з Мінска**

# ДАКЛАДНАСЦЬ АКЦЁРСКАГА МАЛЮНКА

Калі глядзіш на сцэну і ў святле рампы бачыш „жыццё чалавечага духа", увасобленае ў плоць персанажа Здзіславам Стомам, дасканалым беларускім артыстам, цешышся менавіта дакладнасці акцёрскага малюнка. У сваіх пошуках сцэнічных колераў З. Стома ідзе ад жыццёвых назіранняў, ад сваіх мастацкіх роздумаў аб бачаным і перажытым ім самім. Плюс — нязвыклая артыстычная тэхніка. Яму важна паглыбіцца ў сутнасць чалавечага характару, ён дасканала вывучыць яўныя і скрытыя пружыны паводзін героя. І адначасова шукае, прабуе,



Сцэна з спектакля „Людзі на балоце".

прымярае да сябе непаўторную манеру хадзіць і смяяцца, плакаць і ўздыхаць...

Іграе Здзіслаў Францавіч ролі ў п'есах беларускіх аўтараў, выступае ў творах рускай і зарубежнай класікі, няма ў яго назойлівага падкрэслівання рыс характару, выведзенага аўтарам. Ён па-мастацку прапаведуе вернасць „тром праўдам" — праўдзе жыццёвай, праўдзе сацыяльнай і праўдзе мастацкай.

Камедыйны артыст... Сочачы за ігрой З. Стомы, гледачы часта смяюцца. Не бяззубым смехам пустых людзей, задаволеных, што іх забаўляюць. Акцёр узбуджае актыўныя эмоцыі, і мы сваім смехам або разам з артыстам караем зло і ўродства, або вітаем у яго асобе пераможцу над злом і маральным убоствам. Як непадобны паміж сабой Францысь Пустарэвіч у „Паўлінцы" Я. Купалы і куранёўскі кулак Глушак („Людзі на балоце" па раману І. Мележа), прыслужнік акупантаў Бураўчык у „Канстанціне Заслонаве" А. Маўзона і скромны настаўнік з грузінскага аула ў камедыі „Я, бабулька, Іліко і Іларыён" Н. Думбадзе і Г. Лордкіпанідзе.



*Народны артыст СССР Здзіслаў Стома.*

Яго „асаджаюць" шматлікія паклоннікі сцэнічнага мастацтва. На сустрэчах з гледачамі яму прыходзіцца адказваць на пытанне: „Як гэта ў вас выходзіць?" А ён тады пакажа на імправізаванай сцэне — як іграе. Напрыклад, аднойчы ў тэлевізійным часопісе Здзіслаў Францавіч выконваў урывак з рамана „Бравы салдат Швейк" Я. Гашэка, і было ў ім столькі духоўнага здароўя і вясёлага ладу сэрца, што сапраўды было шкада адсутнасці інсцэніроўкі ў рэпертуары роднага для З. Стомы Акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы, у трупе якой ён працуе вось ужо 33 гады...

У калектыве ведаюць і любяць Стому. Тысячы выступленняў у калгасах і воінскіх часцях, у школах і на прамысловых прадпрыемствах наладзіў ён. Калі трупа абмяркоўвае актуальныя пытанні творчага жыцця, рэпертуар і тэндэнцыі развіцця, камуніст З. Стома выступае як аўтарытэтны і ўдумлівы мастак-грамадзянін. Тэатр для яго — кафедра, з якой можна сказаць многа праўдзівых і жывых слоў.

**Барыс Бур'ян**
**фота Э. Трыгубовіча**



*Сцэна з спектакля В. Гюго „Тысяча франкаў узнагароды".*

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Niedziela 27.X.**
6.35 Tech. Rol. Mat. 7.05 Upr. rośl. 7.35 Kurs Rol. 8.10 Przyp. radz. 8.20 Bieg po zdrowie. 8.30 Now. w domu i zagr. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Teleranek 10.15 Antena. 10.35 Początek końca — film radz. 11.25 Lektury Pegaza. 11.40 Radar. 12.00 Dziennik 12.20 Szansa Krynek. 12.50 Studio Muz. Roz. 13.20 Klub Sześciu Kont. 14.05 Dla dzieci. 14.35 Nie tylko dla pań. 15.05 Bank Miast (I) Ciechanowiec—Pińczów. 16.20 Refleksje ob. 16.35 Recital pieśni. 16.55 Los. Toto-Lot. 17.10 Tele-Echo. 18.00 Bank Miast (II). 18.15 Sport. 19.10 Bank Miast (III) 19.15 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Katastrofa — film TVP. 21.20 Bank Miast (IV). 21.50 Co kto lubi. 22.40 Sport.

**Poniedziałek 28.X.**
12.45 Tech. Rol. Mat. 13.25 Mech. rol. 15.55 Nurt — Nauki o polit. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik 16.40 Zwierzyniec. 17.30 Echo stad. 17.55 Warsz. persp. 18.10 Sport w karykaturze. 18.25 Kr. Warsz. i Maz. 18.45 Światłoczuły notatnik. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Teatr TV: St. Wyspiański — Kroniki królewskie 22.00 Julien Bryan. 22.35 Muzyka przy świecach. 22.50 Dziennik. 23.05 Oferty.

**Wtorek 29.X.**
6.30 Tech. Rol. Mat. 7.05 Mech. rol. 9.00 Dla szkół: (kl. V) J. pol. Jan Matejko. 10.00 Jak hartowała się stal — film radz. 11.05 Dla szkół (kl. VII—VIII) Wych plast. Malarstwo cz. III. 13.45 Tech. Rol. Fiz. 14.30 Bot. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci. 17.05 Spacerkiem po kinach. 17.35 Studio Tel. Mł. 18.15 Kr. Warsz. i Maz. 18.35 Eureka. 19.05 Przyp. radz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Jak hartowała się stal — film radz. 21.25 Świat i Polska. 22.10 Sport. 22.20 Śpiewa John Gabilou (Francja). 22.50 Dziennik.

**Środa 30.X.**
6.30 Tech. Rol. Fiz. 7.00 Bot. 10.00 Hamlet — film fab. radz. 12.45 Tech. Rol. Fiz. 13.25 Upr. rośl. 15.55 Nurt — Psych. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Kiermasy — film folkl. 17.10 Inf. Tow., Prop. 17.30 Los. Mał. Lot. 17.40 Artur Becker — film NRD. 18.20 Kr. Warsz. i Maz. 18.40 Jesienny raport. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Hamlet — film. fab. radz. 22.45 Dziennik. 23.00 Sport.

**Czwartek 31.X.**
6.30 Tech. Rol. Fiz. 7.00 Upr. rośl. 10.00 Katastrofa — film TVP. 12.55 Dla szkół (kl. IV lic). J. pol. Polska poezja współcz. 13.45 Tech. Rol. Chem. 14.30 Hod. zwierz. 15.05 Mat. w szkole. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Ekran z bratkiem. 17.40 Zwyczaje i obrzędy. 18.10 Kr. Warsz. i Maz. 18.25 Piłka nożna: Polska — Kanada II poł. 19.10 Przyp. radz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Teatr Kobra: Z. Zeidler-Zborowski — Śmierć w samochodzie. 21.35 Sport. 21.45 Listy i polityka. 22.15 Miłosna Tragedyja na Diabelskiej Górze I. Iredyńskiego. 22.55 Dziennik.

**Piątek 1.XI.**
6.30 Tech. Rol. Chem. 7.00 Hod. zwierz. 10.40 Pr. dnia. 10.45 Jan Jaroń gra chorały Bacha. 11.00 Pasażerka — film fab. pol. 12.00 Dziennik. 12.20 Michał Mostnik. 12.50 Publ. kult. 13.40 Łąka — film. 14.10 Dla dzieci. 14.50 Robert Schumann — IV Symfonia d-moll w wyk. Ork. Symf. Radia Lipskiego. 15.25 Obrzędy Ludowe w Homolju — film. dok. jug. 15.55 XXX-lecie muz pol. — teletur. 17.00 Koncert w Żelazowej Woli. 17.10 Woda życia — film fab. radz. 18.25 Scena zbiorowa ze świętym — rep. 18.45 Sonata b-moll Chopina. Gra Smendzianka. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Teatr TV: G. Hay — „Mienie". 21.30 Panorama. 22.10 Jesień Cheyennów — film fab. ameryk.

**Sobota 2.XI.**
8.30 Tech. Rol. Wskaz. met. 9.00 Mat. 9.45 Pr. dnia. 9.50 Red. Szk. zapowiada. 10.00 Pr. I prop. 10.15 Koncert A-dur Liszta gra Małcużyński. 10.40 Hajducy — film fab. rum. 12.15 Rep. z XX Festiwalu Organowo-Kantatowego we Wrocławiu. 12.55 Czas i ludzie. 14.55 Pr. roz. zrealiz. na Zamku Król. 16.10 Dla dzieci. 16.35 Z kamerą wśród zwierz. 17.05 Szare na złote. 17.30 Scena Tel. Mł. „Krawędź". 18.00 Spotkanie z M. Grechutą. 18.30 Pegaz. 19.20 Dobranoc. 19.30. Monitor. 20.20 Tak tu cicho o zmierzchu — film fab. radz. 22.30 Świadkowie. 23.05 Dziennik. 23.25 Sport. 23.35 Ballady J. Słowikowskiego.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 25.X.** — 8.30 Film fab. 14.15 Koncert. 17.30 Film fab. 19.30 Artysta ludowy ZSRR A. Rajkin. 20.40 Pr. rozr. 21.45 Sport.

**Sobota 26.X** — 8.30 Film fab. 11.45 Przegląd film. 14.30 Filmy anim. 15.00 Hokej. 17.15 Film dok. 18.15 Wieczór autorski Sołowiowa-Siedoja.

**Niedziela 27.X** — 11.30 Turniej bokserski. 13.00 Piłka nożna. 14.20 Wiersze czyta Pimien Panczenko. 14.30 Koncert. 15.00 Panorama międzynar. 15.30 Filmy anim. 16.15 Klub film. 17.15 Wieczór pośw. 150-leciu Teatru Małego. 19.30 Panorama film. 21.00 Sport.

## КІНО

**Białowieża** Nie zestarzejemy się razem — fran. 29—30.X. Łobuz — fran. 2—3 XI.
**Czeremcha** Morderca samotnych kobiet — NRD 29—30.X. El Dorado — USA 2—3.XI.
**Czyże** Pippi w kraju Taka-Tuka — szwedz. I pozdrawiam jaskółki — czeski 30.X.—3.XI.
**Dubicze Cerkiewne** Królewna w oślej skórze — franc. Na niebie i na ziemi — pol. 30.X—3.XI.
**Gródek** Gwiazdy oczami wojownika — radz. 2—3.XI.
**Kleszczele** Echa dawno minionych dni — radz. 2—3.XI.
**Michałowo** Francuski łącznik — USA 29—30.X. Przygody Robinzona Cruzoe — radz. 2—3.XI.
**Mielnik** Bubu z Montporhasse — włoski 30.X. Samuraj i kowboje — USA 2—3.XI.
**Milejczyce** Podróż za jeden uśmiech — pol. 29—30.X. Rodeo — USA 30—31.X. Janosik — pol. 1—2.XI.
**Narew** Nocny kowboj — USA. Wspomnienia z przeszłości — RFN 30.X.—3.XI.
**Narewka** Nie drażnić cioci Leontyny — franc. Wielka, większa i największa — pol. 30.X.—3.XI.
**Nurzec** Nie drażnić cioci Leontyny — franc. 29.—30.X. Wielki łup gangu Olsena — duński 31.X.—1.XI. Milion za Laurę — pol. 2—3.XI.
**Orla** Ned Kelly — ang. Dożyjmy do poniedziałku pol. 30.X.—3.XI.
**Rajsk** Spragniona miłości — bułg. Nie ma mocnych — pol. 30.X.—3XI.
**Suchowola** Kajtek i siedmiogłowy smok — węg. 29—30.X. Ostatni nabój — rum. 31.X—1.XI. Miasto czerni — węg. 2—3.XI.

B.Z.Graf. zam. 2952 O-3

## БГКТ ХРОНІКА

■ 11 кастрычніка прэзідыум сакольскага аддзела БГКТ з удзелам старшыні ГП Мікалая Самоціка зрабіў аналіз кантрольнага пратакола МСВ і на гэтай аснове апрацаваў заданні, каб палепшыць статутовую дзейнасць БГКТ. Шмат увагі было прысвечана конкурсам — тэатральнаму і песеннаму, да якіх рыхтуюцца ўсе аддзелы БГКТ.

■ 12 кастрычніка з нагоды XXXI гадавіны Войска Польскага ў гарадскім аддзеле БГКТ у Беластоку палкоўнік Завільскі расказаў прысутным аб баявым шляху нашай арміі.

■ Харавы і танцавальны калектыў беластоцкага гарадскога аддзела БГКТ 13 кастрычніка далі ў Сямяцічах два канцэрты.

■ У лістападзе адбудуцца пленарныя пасяджэнні праўленняў аддзелаў БГКТ, на якіх будзе зроблена ацэнка ўдзелу БГКТ у святкаванні XXX гадавіны ПНР, а таксама абмеркаваны будуць напрамкі дзейнасці ў новым культурна-асветным годзе 1974-75.

Затым адбудзецца пленум Галоўнага праўлення, на якім будзе падсумаваны ўдзел БГКТ у святкаванні XXX гадавіны ПНР, рэалізацыя пастаноў VI з'езду БГКТ і напрамкі культурна-асветнай дзейнасці.

■ Прэзідыум гайнаўскага аддзела БГКТ прыдзяліў сваім актывістам для абслугі паасобныя гурткі БГКТ. Актыў зверне асаблівую ўвагу на статутовую дзейнасць гурткоў, у тым ліку і на аплочванне членскіх складчын.

■ З аплочваннем членскіх складчын справа не выглядае добра ва ўсіх аддзелах БГКТ. За тры мінулыя кварталы членскія складчыны аплочаны: у сямяціцкім аддзеле — 55,4%, у варшаўскім аддзеле — 52,4%, у беластоцкім павятовым — 39,6%, у гданьскім — 36,9%, у беластоцкім гарадскім — 33,8%, у бельскім — 24,9%, у гайнаўскім — 16,3%, у сакольскім — 6,5%, а ў дуброўскім толькі некалькі працэнтаў. (мх)



 

 

КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

# Ахрымаўцы

Вёска ў 12-13 км на поўнач ад Саколкі, 31 гаспадарка, каля 180 жыхароў.

Мясцовыя назвы палеткаў: **Кузьміцкая Гара, Батлага, Багон, Ятоўшчына, Дубнікі, Сусэра, Дуброўка**, рэчка **Наваркіе** (Ласасянка), крыніцы: **Кулінoўшчына.** Мясцовыя гаспадыні кажуць, што вада з гэтых крыніц надта ж мяккая, асабліва калі варыць гарох, дык зярняты ўмомант разварваюцца.

Жывуць тут: **Альшэўскі, Барыс, Кічук, Кедыш, Палушанчык, Пясняк, Руцкі, Чапляевіч, Шока, Шымчык.**

**Ахрымаўцы** былі калісьці паншчыннай вёскай і належалі да двара ў **Паўлавічах.** Назва вёскі патранімічнага характару, яна паходзіць ад уласнага імя „Ефрем“, якое ў актах, што адносяцца да беларускіх зямель, у XVI стагоддзі часта прымала форму **„Ахрым“** (напрыклад, у гарадскіх кнігах горада Пінска пад 1552 г. знаходзім „Охрим Сидецкий“).

Пра даўняшнія і сённяшнія часы і справы **Ахрымаўцаў** размаўляю з **Вацлавам Кічукам,** тутэйшым старажылам, якому ўжо споўнілася 65 год, але ён усё яшчэ актыўны грамадскі дзеяч у Сакольскім павеце і перадавы гаспадар у сваёй вёсцы.

— Ад сваіх бацькоў я атрымаў у спадчыне 2,6 гектара. Гэта была такая палосачка, што на лузе і цэлага пракосу не выходзіла, на полі ж, калі сядзеш на адну мяжу, дык ступні на другую абапіраюцца. А жыць трэба было. Што ж, на заробкі з дня ў дзень хадзілі, абы толькі што трапілася. Жонка, бывала, цэлы дзень, не разгінаючыся, бульбу ў двары капае за 90 грошаў, а кілаграм цукру каштаваў 1 злоты і 5 грошаў. І з галавы не выходзіла стакана, каб не адно самому як пражыць, але каб і дзецям на будучыню на кавалак хлеба штосьці закінуць...

Цяпер В. Кічук гаспадарыць на 18 гектарах. Ён мае камплект сельскагаспадарчых машын: трактар „Урсус Ц-411“, снопавязалку, бульбакапалку, сеўнікі для збожжа і для мінеральных угнаенняў, грабілку, свой млынок. У яго хлявах стаіць 16 штук быдла, у тым ліку 8 дойных кароў. Кожны месяц ён дастаўляе звыш тысячы літраў малака. Гадуе таксама свіней, здае ў год каля 20 кормнікаў. На панадворку каля 100 штук рознай хатняй птушкі. І поле ў яго родзіць як належыцца. Штогод ён прадае дзяржаве 5 тон збожжа (паўтары тоны пшаніцы і 3,5 тоны жыта) ды звыш 10 тон бульбы.

— Сёння, калі толькі чалавек хоча, дык можа ўсё зрабіць, усё мець і жыць прыпяваючы. Але не толькі пра сябе думаць трэба. Яно, бачыце, нават і ў полі найвышэйшы дуб — гэта яшчэ не лес. Таксама і з гаспадарамі: трэба клапаціцца пра тое, каб большасць, калі ўжо не ўсе, сяляне былі культурнымі і заможнымі. Таму нельга жыць толькі сваім панадворкам.



І гэтыя словы ў В. Кічука не разыходзяцца з яго ўчынкамі. Ён ад пачатку заснавання ЗСЛ належыць да гэтай арганізацыі, з'яўляецца яе актывістам. Дзесяць год таму назад быў ініцыятарам заснавання ў Ахрымаўцах сельскагаспадарчага гуртка. Прымае актыўны ўдзел у працы наглядальнага савета ГС-у і наглядальнага савета Акруговай малачарскай спулдзельні ў Саколцы. Ужо пяты раз яго абралі радным Павятовай рады нарадовай.

— Здаецца мне, — разважае В. Кічук, — што неабходна ўсё больш павялічваць колькасць машын на вёсцы: як у міжгуртковых машынных базах, так і ў прыватным уладанні сялян. Вось хоць бы для нашай вёскі проста дазарэзу патрэбен малацільны агрэгат, некалькі сеялак для збожжа, веялка, грабілкі. Але не толькі. Машыны патрабуюць належнага догляду, і тут трэба ўсяму грамадству і ўладам больш вымагаць і ад працаўнікоў сельскагаспадарчых гурткоў і машынных базаў ды ад саміх сялян. Неабходна заахвочваць людзей, каб у кожнай гаспадарцы было сама меней па адной штуцы быдла на гектар зямлі і лугу. Час ужо падумаць нам таксама і пра ачыстку поля ад каменняў. Сакольшчына надта ж камяністая, усюды поўна валуноў. Яны вельмі перашкаджаюць машынам у працы, але ў той жа час каменні — гэта дасканалы будаўнічы матэрыял і ў вёсцы і ў горадзе. І яшчэ адна агульная справа, якая датычыць усіх сялян, — гэта моладзь. Уцякае яна нам з вёскі, і трэба рабіць усё, каб хоць у вялікіх ды сярэдніх гаспадарках заставаўся адзін малады чалавек.

І ў гэтай справе В. Кічук можа быць узорам. Яго старэйшы сын Станіслаў пасля заканчэння факультэта геафізікі ў Люблінскім універсітэце застаўся там жа працаваць асістэнтам і цяпер рыхтуецца да абароны доктарскай дысертацыі. Малодшы ж сын Юзэф, закончыўшы школу сельскагаспадарчай падрыхтоўкі, працуе разам з бацькам на гаспадарцы.

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара

# НАЙСТАРЭЙШАЯ на БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

Сёлета Беластоцкай медыцынскай акадэміі спаўняецца 25 год. Надзвычай плённай у навучальнай і навукова-даследчай дзейнасці была гэтая першая чвэрць стагоддзя самай старэйшай на Беласточчыне вышэйшай навучальнай установы.

Калі восенню 1949 года першы студэнт пераступаў парог напалавіну разбуранага вайной былога палаца Браніцкіх, ва ўсім Беластоцкім ваяводстве працавала ўсяго толькі 65 лекараў медыцыны. Сёння ж на Беласточчыне працуе звыш 2 тысяч лекараў з высокімі кваліфікацыямі, у іх ліку болей чым 80 працэнтаў — гэта выпускнікі Беластоцкай медыцынскай акадэміі. Калісьці гэты шэдэўр палацовага будаўніцтва ў стылі барока быў сімвалам раскошнага жыцця магнатаў і беспрасветнай нядолі працоўнага люду, цяпер жа ён стаў ачагом навукі, што служыць рабочым, сялянам, працоўнай інтэлігенцыі. За дваццаць пяць год працы Беластоцкая медыцынская акадэмія падрыхтавала звыш 3800 лекараў медыцыны, а адкрыты ў 1968 годзе яе аддзел стаматалогіі ўжо выпусціў 68 зубных лекараў. Сёння ў ёй працуе каля 400 выкладчыкаў, а сярод іх 14 прафесараў. На 45 кафедрах гэтай вялікай навуковай установы атрымала навуковае званне доктара медыцыны 360 асоб і 56 асоб — габілітаванага доктара медыцыны. Спецыялізацыю зрабіла тут 1100 лекараў.

Беластоцкая медыцынская акадэмія сёння з'яўляецца вядомым не толькі ў Польшчы, але і па-за яе межамі навуковым цэнтрам. Навуковыя даследаванні па згуставанні крыві сталі яе вядучай галіной. У мурах акадэміі адбываюцца агульнапольскія і сусветныя навуковыя кангрэсы і з'езды. Тэарэтычныя дасягненні выкарыстоўваюцца ў лячэнні хворых. У беластоцкай медыцыне паўстала шэраг новых сучасных спецыяльнасцей — эндакрыналогія, хірургія сэрца, цэнтр штучнай ныркі і іншыя. Уведзены новыя метады дыягнозу і лячэння. Многа прац беластоцкія вучоныя прысвяцілі праблеме неўспрыймальнасці антыбіётыкаў, правільнаму развіццю дзяцей і моладзі. Вялікі таксама іх уклад у справе даследавання і аховы асяроддзя чалавека.

У сваёй навучальнай і даследчай дзейнасці Беластоцкая акадэмія супрацоўнічае з многімі вышэйшымі навуковымі ўстановамі ў Польшчы і на свеце, асабліва плённа развіваецца яе супрацоўніцтва з медыцынскімі інстытутамі ў Гродне і Каўнасе.

Як падкрэсліў у сваім выступленні на ўрачыстым адкрыцці 1974/75 навучальнага года рэктар акадэміі праф. др **К. Віснеўскі,** цяпер вядзецца падрыхтоўка спецыялістаў для адкрыцця ў недалёкай будучыні Беластоцкага інстытута дзіцяці і цэнтра геранталогіі.

Сенат і камітэт Польскай аб'яднанай рабочай партыі ў Беластоцкай медыцынскай акадэміі дбаюць пра тое, каб належна падрыхтаваць лекараў з высокімі кваліфікацыямі, чулых да чалавека і гатовых заўсёды ісці яму на дапамогу. (іс)



*Медыцынская акадэмія.*
*Фота В. Рудчыка.*




# АПОВЕСЦЬ ПРА ПРАРОКА АЛЬЯША

У Гродне жыве беларускі пісьменнік Аляксей Карпюк. Ён родам з вёскі Страшава ў Беластоцкім павеце. Яму цяпер ужо 54 гады. У Савецкую Беларусь перасяліўся ён разам з сям'ёй адразу пасля вайны.

Няма і не было дагэтуль другога пісьменніка, які столькі сваіх твораў прысвяціў бы нашай роднай зямлі. Фактычна амаль усё, што выйшла з-пад пяра Аляксея Карпюка, так ці інакш, датычыць Беласточчыны.

Вось нядаўна, дзякуючы Мінскаму выдавецтву „Мастацкая літаратура“, атрымалі мы зноў новую, здаецца, ужо восьмую або дзевятую кніжку гродзенскага пісьменніка. Гэта дакументальная аповесць „Вершалінскі рай“. Яе асноўным героем з'яўляецца **Альяш Клімовіч** — селянін з вёскі Грыбоўшчына ў Сакольскім павеце, які ў міжваенны час праславіўся як прарок Альяш Грыбаўскі.

Старэйшыя людзі яшчэ добра памятаюць гэты магутны, стыхійны псіхоз, які авалодаў вёскі Заходняй Беларусі і прымушаў сялян паломнічаць у далёкую Грыбоўшчыну, дзе прарок Альяш пабудаваў найперш адну царкоўку, а затым „Горад Вершалін“, які толькі адзін меў астацца на зямлі ў час „страшнага“ суда.

*„У вёсцы Грыбоўшчына,* — распачынае сваю аповесць Аляксей Карпюк, — *праваслаўныя жылі побач з католікамі. Адны і другія гутарылі тым самым, што і ў маім Страшаве, беларускім дыялектам... На пытанне ж — беларусы яны ці палякі, упэўнена заяўлялі:*

*— Не, мы тутэйшыя! Нават гаварыць ні па-польску, ні па-беларуску не ўмеем! Па-просту гаворым! Гэта за каралём нас пісалі палякамі, за царом — рускімі; халера іх бяры, няхай сабе так і пішуць — абы нас не чапалі!“*

Вось у гэтай вёсцы неўзабаве пасля адмены паншчыны *„...Клімовічава Юзафіна на пагорку, жнучы, нарадзіла другога сына Альяша“.* Яго бацькам быў Лаўрэн. Маці — Юзафіна — выводзілася з каталіцкай сям'і. Выходзячы замуж за праваслаўнага, яна прыняла і мужаву веру, але глыбока ў душы засталася аднак каталічкай.

Пасля вайсковай службы Альяш Клімовіч займаўся гаспадаркай, а яго старэйшы брат пайшоў у Гродна служыць жандарам. Альяш крыху ўмеў чытаць і цэлымі днямі праседжваў над Біблiяй, бо толькі гэтая кніжка была даступная ў іх хаце. Яго брата, Максіма, застрэліў рэвалюцыянер Голуб, калі на Саборнай плошчы ў Гродне страляў у начальніка губернскай жандармерыі, палкоўніка Зубава. Гэты выпадак яшчэ болей паглыбіў містычныя схільнасці Альяша. Калі ўжо астаўся ён адзін, быў жанаты і меў дзяцей, *„...калі ён пасвіў коней, раптам яго асляпіла незямное святло, на небе з'явілася багародзіца ды аб'явіла, што даручае яму пабудаваць царкву на тым пагорку, дзе яго маці нарадзіла“.* Расказваючы пра гэта, Альяш яшчэ дадаваў, што калі развіднелася, на тым жа ўзгорку знайшоў ён, завешаную на дрэве, ікону маці божай з Чэнстаховы. Іншыя дзядзькі і цёткі што-нешта ад сябе дадалі да гэтай гісторыі і так разышлася Альяшова легенда па навакольных вёсках. Ён сам у яе цвёрда паверыў. Прадаў гаспадарку і пачаў на ўзгорку за вёскай узводзіць царкву.

У той час на ўсю Рускую імперыю славіўся цудатворац Іаан Кранштацкі. Грыбаўскі Альяш выбраўся пакланіцца яму. Пакуль вярнуўся дамоў, кранштацкі цудатворац памёр, а ў Грыбоўшчыне якраз людзі пазбавіліся грознага бандыта Паўтарака. Дык разышлася вестка, што Іаан Кранштацкі вызначыў сваім намеснікам Альяша Клімовіча, а відомым знакам на гэта ёсць смерць азвярэлага Паўтарака.

Зерні гэтай легенды палі на спрыяльны грунт. Людзі жылі ў бядзе і цемры, ад веку прагнулі лепшай долі. Тое, што прапанаваў ім Альяш, было па-мужыцку простае і даступнае сялянскаму ўяўленню. Ён адналькава кляйміў і па-

Працяг на стар. 4





 

# Сардэчныя тайны

**Дарагое „Сэрцайка“!**

Мне 16 год. Закончыла пачатковую школу, далей вучыцца не пайшла і працую разам з бацькамі на гаспадарцы. Пакахала я Валодзю з суседняй вёскі. Часта да мяне прыязджаў. На забавах танцаваў толькі са мной. І дадому кожны раз правёў. Бацькі мае, аднак, гаварылі, што яшчэ я замаладая, каб так сур'ёзна з хлопцам хадзіць, асабліва мама асцерагала, каб што дрэннае не сталася. А тут і здарылася няшчасце. Я адчуваю сябе цяжарнай. Спачатку я нікому аб гэтым не гаварыла. Аднак мама дадумоўвалася, бо я дрэнна сябе адчувала. Пачала пытаць, штораз больш настойліва дамагалася, каб я сказала праўду. І я ўрэшце прызналася. Быў гэта ўжо чацвёрты месяц маёй цяжарнасці. Пайшлі мы тады з мамай да лекара, але ён сказаў, што пазбыцца ўжо немагчыма. Бацька, даведаўшыся, страшэнна абурыўся. Бяды поўная хата. А тут яшчэ, калі сказала я Валодзі, дык той знерваваўся, пачаў крычаць, што дзіця не яго. І больш ужо да мяне не прыехаў. Пэўна, ужо і кахаць мяне перастаў. Я пачала хадзіць з іншым хлопцам з нашай вёскі, але, калі ён даведаўся аб усім, таксама мяне пакінуў. Парай, „Сэрцайка“, што мне цяпер рабіць? Хлопцы адцураліся. Пэўна самой прыйдзецца дзіця гадаваць?

**Галіна з Бельшчыны**

**Галіна!** Нарабіла ты сабе клопатаў, ды і бацькам таксама. Не здзіўляйся, што сварацца на цябе. Ты сама яшчэ дзіця і бацькоўскай апекі патрабуеш. А неўзабаве народзіш сваё дзіця. І тут табе неабходна вялікая дапамога бацькоў, асабліва маці. І не крыўдуйся ты на іх, а прасі прабачэння. Ва ўсім жа гэтым сама ты вінавата. На Валодзю не спадзявайся. Відаць, ён яшчэ таксама не дарос да ролі бацькі, і няма тут ніякай пэўнасці, што вернецца ён да цябе. Гэтак часта бывае, што каханы хлопец, як толькі даведаецца, што дзяўчына зацяжарыла, дык уцякае ад яе як найдалей, пакідаючы адну са сваім няшчасцем. А звязвацца з іншым табе ўжо было непатрэбна. Ці думала ты яго ашукаць? Раней ці пазней, ён і так даведаўся б аб усім і напэўна б цябе пакінуў, а тым самым скамплікаваліся б яшчэ больш і так ужо даволі скамплікаваныя справы. Напэўна нялёгка табе будзе. Але што ж, за сваю лёгкадумнасць прыдзецца пацярпець.

**„Сэрцайка“**

## У НАШЫМ АБ'ЕКТЫВЕ



*Здзейсніліся шматгадовыя мары Мікалая Федарука з Плёскаў Бельскага павету аб прыгожай жалезнай браме.* Фота Я. Цялушэцкага.

# Кансультацыя юрыста

**ПЫТАННЕ:** Цешча дала (без натарыяльнай умовы) дачцы і зяцю ўчастак зямлі, на якім яны завялі агарод. Гэта адбывалася адразу ж пасля вайны. У 1953 годзе цешча памерла, а яе зяць і дачка надалей карысталіся супольна агародам. Сёлета яны разышліся. Ці прыслугоўвае зяцю права да агароду?

**АДКАЗ:** Калі б цешча жыла дагэтуль, то зяць і дачка, якія карысталіся як уласнікі ўчасткам зямлі, дадзеным цешчай, набылі б уласнасць гэтага ўчастка з-за даўнасці. Участак зямлі з'яўляўся б поўнай уласнасцю зяця і дачкі. Аднак зяць і дачка карысталіся супольна як уласнікі толькі да 1953 года, г.зн. да смерці цешчы, і да гэтага года яны не набылі ўласнасці з-за даўнасці. Пасля смерці цешчы ўласніцай гэтай зямлі стала яе наследніца — дачка. І хаця надалей муж і жонка супольна карысталіся з участка, то самастойнай карыстальніцай была толькі жонка, а муж не меў асноў, каб набыць уласнасць з-за даўнасці.



# Куток практычных ведаў




## КЛОПАТЫ З ЗУБАМІ



яправільна растучыя зубы і адваротны прыкус выступаюць вельмі часта. Дарастаючыя дзяўчаты перапоўненыя сумам з прычыны гэтага і часта пападаюць у камплексы. У некаторых зубы проста няправільна стаяць, растуць яны сабе „як хочуць“ — крыва і нерэгулярна. У іншых выпадках сківіцы адна да другой пастаўлены няправільна. Напрыклад, верхняя сківіца празмерна высунута наперад, і тырчаць пярэднія верхнія зубы. Бывае і наадварот: ніжняя сківіца высунута наперад і пярэднія ніжнія зубы высунуты перад верхнімі.

Гэткія недахопы вельмі некарысна адбіваюцца на рысах твару, што найлепш відаць з профілю. Прычыны гэтых недахопаў пакуль што яшчэ дакладна не высветлены, але сцверджана ўжо, што вельмі часта перадаюцца яны па наследству — такі недахоп, як у дзіцяці, выступае ў аднаго з бацькоў. Дзеці, якіх кормяць штучна, часцей маюць адваротны прыкус, чым дзеці, якіх корміць матка груддзю. Кармленне дзіцяці раздробленай ежай у выглядзе папкі таксама можа спрыяць няправільнаму прыкусу, паколькі сківіцы не выконваюць неабходнай для іх працы, якой з'яўляецца жуццё, і не развіваюцца правільна. Несумненна, што вялікі ўплыў на дэфарміраванне сківіц маюць дрэнныя навыкі ў дзяцінстве — ссанне „для забавы“ соскі ці пальца, трыманне паміж зубамі цацкі, алоўка ці пяра.

Барацьба за здаровыя і прыгожыя зубы праводзіцца ў Польшчы вельмі энергічна. У апошнія гады гэтыя анамаліі выступаюць у штораз большай лічбы дзяцей. Бывае, што маткі заўважаюць яе і звяртаюцца за парадай да стаматолага. Найчасцей, аднак, недахопы заўважаюць дактары ў часе даследавання дзяцей у яслях, прадшколлях і школах. Чым раней будуць заўважаны няправільна развіваючыеся зубы, тым больш надзеі на тое, што можна будзе іх паспяхова вылечыць.

Дзіця, у якога няправільна развіваюцца зубы, павінна быць накіравана да спецыяліста-артадонта. Гэта доктар, які займаецца выключна лячэннем такіх зубоў. Малыя недахопы лечаць спецыяльнай гімнастыкай мышцаў твару, якая выконваецца некалькі разоў на працягу дня. У іншых выпадках неабходны спецыяльны лячэбны апарат. У даны момант прымяняюцца ў асноўным апараты, якія ўкладаюцца ў рот нанач. Зроблены яны з ружовай пластмасы і сталёвых элементаў, якія ахопліваюць зубы. Апарат рэгулюе няправільнае палажэнне зубоў і наладжвае гарманічнае садзеянне двух сківіц.

Лячэнне такімі апаратамі працягваецца некалькі год, але большасць пацыентаў прывыкае да іх вельмі хутка і рэгулярна іх ужывае. Вынікі лячэння тады бываюць лепшыя і хутчэйшыя, чым у дзяцей, якія ўкладаюць апарат у рот ад выпадку да выпадку.

Часамі, аднак, ужо праз некалькі дзён апарат вандруе на склад непатрэбных хатніх рэчаў. Не памагаюць тлумачэнні бацькоў і доктара. А гады плывуць, і няправільны прыкус з узростам становіцца ўсё больш заўважальны. Спачатку ўпарты пацыент не звяртае на гэта ўвагі. Але, нарэшце, дасягае ўзросту, калі хоча падабацца сабе і іншым, і якраз тады яго зубы становяцца праблемай нумар адзін. На жаль, найчасцей ужо тады нямнога можна зрабіць, паколькі найлепш лячыць малады арганізм. Ва ўзросце пятнаццаці год гэта вельмі ўжо цяжкая справа.

**Эскулап**




Ледзьве адольваючы ліпкую мутнасць у свядомасці, лейтэнант зразумеў, што пагібель яму адтэрміноўваецца. І ён як за паратунак, ухапіўся за кароценькую магчымасць жыць, абапёрся рукой аб сцяну, вельмі няўпэўнена ўстаў і адразу ж прываліўся плячом да броўкі траншэі. Тады немец дужай рукой падхапіў яго пад паху. Клімчанка ад болю і слабасці скрыгануў зубамі, тузануў руку, але немец трымаў моцна і, бесцырымонна пхнучы наперад, павёў яго па траншэі.

Вецер курыў з бруствера пылам, ад нейкай сцюдзёнай макрэдзі ламала ў патыліцы, было дужа холадна. Клімчанка зноў дробненька затросся ў неадольнай ліхаманцы і, абыякавы ўжо да таго, куды яго вялі, аслабела перастаўляў ногі. Другі немец ішоў наперадзе, здавалася, зусім безуважны да іх абодвух. Свежы марозны вецер рассыпаў на Клімчанкавай галаве валасы, — шапка недзе засталася ў траншэі, — студзіў памарожаныя зімой вушы, але ў той жа час і асвяжаў, дадаваў сілы, і чалавек, глыбей уздыхнуўшы, адчуў сябе лепей. З'явіўся першы неспакой па ўзводзе, скрозь звон у вушах ён услухаўся — не, бою паблізу не было чутна, калатнеча ў прасторы сціхла, толькі дзесьці — відаць, у зямлянцы — нейкі фрыц паўтараў адно і тое ж слова. Мусіць, тэлефаніст выклікаў пазыўныя. Клімчанка, адчуўшы сілу, мацней тузануў у немца руку, той спыніўся; тады лейтэнант выдавіў на шчоках жаўлакі і, хапаючыся за сцены, як п'яны, рушыў уперад. Немец нешта сказаў, засмяяўся дыхавічным смехам прастуджанага і пайшоў ззаду.

Лейтэнант зірнуў у адзін бок, у другі — траншэя вяла ў тыл, рова і палетка з іржышчам, дзе яны наступалі, адсюль не было відаць. Навакол было павеснавому прывольна і прасторна — чакаючы свайго часу бруяў вясновымі сокамі лес, вытаяўшы з-пад снегу, вось-вось гатова была ажыць для свае адвечнае справы зямля. Там-сям у раўчуках, разорах, на падлеску марнелі-датайвалі бы наждак хрусткія на марозе лапіны снегу, гуляў над прасторамі вецер, — сушыў зямлю. На змену бясконца доўгае сцюжы ішла вясна, і лейтэнант зразумеў: не для яго.

4.

Яго аднак не стралялі, а вялі і вялі ўсё глыбей у тыл, далей ад сваіх, ад роты, і Клімчанка ўсё выразней усведамляў, што гэта шлях назаўжды, што звароту яму ўжо не будзе.

Траншэя тым часам мялела і мялела, пакуль і зусім не скончылася ў лагчынцы дзвюма прыступкамі — яны вылезлі і апынуліся на сцяжынцы праз нейкі густаваты алешкавы хмызнячок. Клімчанка, дужа пакутуючы, стараўся ашчадней дыхаць, — ад глыбейшых уздыхаў калола ў баку і позірк заплываў туманам. Часам ён замаруджваў хаду, прыставаў, і тады задні штурхаў яго руляй аўтамата або рукой, прыгаворваючы пры гэтым: „Пшёл! Пшёл!“ Але злосці ў ягоным голасе лейтэнант не адчуваў, хоць гэта цяпер і не мела значэння. Другі, ні разу не азірнуўшыся, роўным крокам ішоў наперадзе.

На сцяжынцы ім трапіліся чалавек шэсць салдат, — мабыць, сувязістаў. Абвешаныя шпулькамі з чырвоным кабелем, сумкамі, зброяй, яны насцярожана саступілі са сцежкі перад афіцэрамі і, мінаючы палоннага, кожны з іх укалоў яго зацятым, злым позіркам. Адышоўшы, яны яшчэ азіраліся, але Клімчанка ўжо не адрываў ад зямлі свайго позірку. Усё, што было наўкола, яго амаль не датычыла.

Так яны выйшлі к дарозе. Гэта было ў шырокім раўчуку-разлозе, побач з мастком цераз замерзлы ручай. На невялікай прагаліне між кустоў збоч дарогі стаяла, абы-як загнаных, некалькі крытых брызентам машын. Дол між іх быў утаптаны і стракаты ад плямаў гаручага і змазкі, побач валялася некалькі бочак, і салдат у камбінезоне, адкінуўшы ўбок руку, валок да машыны цяжкую каністру. Два другія нахілялі бочку, з якой ліўся ў вядро бензін. Пярэдні канваір Клімчанкі нешта запытаў у салдата з каністрай, той, ляпнуўшы па сцягну рукой, коратка адказаў і яны скіравалі ўбок, дзе пад узроўкам чарнелі дзверы зямлянак.

Спярша Клімчанку здалося, што тут штаб і, перш чым расстраляць, яму ўчыняць допыт. Але, агледзеўшыся, ён усумніўся ў той сваёй думцы. Зямлянак ва ўзмежку было ўсяго дзве; ні тэлефонаў, ні звычайнай штабной мітусні тут не заўважалася. Пярэдні немец адчыніў пафарбаваныя пад дуб — відаць, недзе знятыя ў доме — дзверы з шыбкай-акенцам у верхняй філёнцы і зайшоў у зямлянку. Следам, падштурхнуты канваірам, улез Клімчанка, і дзверы, рыпнуўшы, прыстукнуліся.

Ён ступіў на хісткія, негабляваныя дошкі, у твар ударыла гарачынёй напаленай жалезнай печкі, трошкі смярдзела дымам. На засланым коўдрай стале ляжалі паперы, гарэла нізенькая стэарынавая плошка, і нейкі маладжавы яшчэ афіцэр у кароценькім, з прарэзам, мундзірчыку, загойдаўшы агеньчык, кінуўся да ўвайшоўшага і стукнуў абцасам. Пакуль яны гергаталі аб нечым, Клімчанка, паддаючыся расслабляючай сіле цяпла, агледзеўся. Ззаду праз шыбку ў філёнцы пранікала слабое святло хмарнага дня; разам з агеньчыкам у плошцы яно ўсё ж асвятляла пярэднюю сцяну, скрозь залепленую бясконцым паўторам аднаго і таго ж плаката: шыракатвары чырвонаармеец з плоскага кацялка еў нейкае хлёбава і зусім дурнавата ўсміхаўся немцу ў касцы, што паляпваў яго па плячы з та-

